

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 6(42) Чэрвень 1997 June Год выд. 5


# "Чарнобыльскі шлях-97"






**Спадар Нікадэм ЖЫЗЬНЕЎСКІ**
кіраўнік беларускае радыёпраграмы «Нёман» у Чыкаго, ведамы грамадзкі, культурны і царкоўны дзеяч, няўтомны працаўнік на ніве беларускага адраджэньня і вялікі беларускі патрыёт.

Дарагі Нікадэм! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.

У Беларусі два гербы, два сцягі, два парламенты, дзве канстытуцыі — а мяркуючы па тым, як адзначалася ў мінулую суботу чарговая гадавіна чарнобыльскай катастрофы, дык і Чарнобылі ў нас таксама два. Адзін — у начальства, другі — у народа. У суботу ў сталіцы адбылося два мітынгі. Адзін непадалёк ад плошчы Бангалор (у гонар індыйскага горада-пабраціма Мінска), дзе пастаўлены мемарыяльны камень і будуецца праваслаўны храм. Другі — ля Палаца спорту. Першы мітынг меў афіцыйны характар, і на ім сабралася чалавек семсот (прычым трэцяя частка — людзі ў форме: міліцыянеры, вайскоўцы, курсанты). Другі ладзіла апазіцыя. Пад бел-чырвона-белымі сцягамі дэманстрантаў было тысяч дваццаць. Ля бангалорскага каменя сабраліся тыя, каго прымушаў да гэтага службовы абавязак, і тыя, хто мае патрэбу прадэманстраваць сваю лаяльнасць сённяшнім уладам. Праўда, я не выключаю, што на афіцыйным мітынгу былі і тыя, хто сапраўды прыйшоў пакланіцца святыні — каменю і храму. Тыя, для каго гэтыя камень і храм — сімвал пакут і гераізму... Але абсалютна недарэчным выглядаў хоць і на афіцыйным, але ўсё ж такі чарнобыльскім мітынгу строй камуністаў, якія прыйшлі з былым дзяржаўным сцягам былога СССР, з партрэтамі А. Лукашэнкі і лозунгамі "Нет продвижению НАТО на восток!" і "Быть союзу России и Белоруссии!". Складвалася ўражанне, што арганізатары мітынгу каля каменя нешта не ўлічылі, нешта недапрацавалі. Не было скаардынаванасці. Скажам, урадавыя чыноўнікі дзякавалі Маскве за дапамогу ў справе пераадолення наступстваў Чарнобыля, запэўнівалі, што прэзідэнт зробіць усё магчымае, каб на забруджаных тэрыторыях стварыць нармальныя ўмовы для жыцця. Нейкі выступовец нават сказаў, што "бяда адна не ходзіць, услед за Чарнобылем распалася вялікая краіна", не разумеючы, што такое супастаўленне — абраза ахвярам Чарнобыля. Можа камусьці і недаспадобы, што колішнія правінцыі імперыі сталі суверэннымі краінамі. Але параўноўваць гэтую шараговую падзею сусветнай гісторыі з ядзернай катастрофай, якая можа паставіць крыж на існаванні цэлага народа, мякка кажучы, некарэктна.

Намеснік старшыні гарвыканкама тав. Чыкін гаварыў пра "інтэграцыю", якая нібыта вырашыць усе нашы праблемы, забываючы, што Чарнобыль здарыўся якраз у той дзяржаве, якую сябры Т. Чыкіна па партыі збіраюцца аднавіць. У дзяржаве, што аказалася абсалютна няздольнай абараніць сваіх грамадзян, якія па віне яе, дзяржавы, трапілі ў бяду.

Зусім пра іншыя рэчы гаварылі тыя, каго непасрэдна закрануў Чарнобыль. Удава ліквідатара нагадвала пра даўгі, якія дзяржава вінна чарнобыльцам; пра тое, што многія з ахвяр катастрофы трымаюцца выключна за кошт гуманітарнай дапамогі з Захаду. Жанчына-перасяленка абуралася тым, што ў зоне ўсё яшчэ застаюцца тыя, якім няма дзе падзецца, якія не могуць з'ехаць. Дзяржава пра іх нібыта забылася. Трэба спыніць махінацыі чыноўнікаў з жыллём для чарнобыльцаў, з грашыма, выдаткаванымі на патрэбы пацярпелых.

Так што і на афіцыйным мітынгу гучалі "неафіцыйныя" словы, якія нармальна ўспрымаліся б і на мітынгу апазіцыі.

Апазіцыйная акцыя "Чарнобыльскі шлях-97" распачалася шэсцем ад Акадэміі навук па праспекце Скарыны. Міліцыянеры і амонаўцы гэтым разам стаялі ў дварах, прылеглых да праспекта, і шэсцю не перашкаджалі. Ахову парадку ў часе шэсця і мітынгу здзяйснялі маладыя хлопцы з бел-чырвона-белымі павязкамі на рукавах. Менавіта яны затрымалі некалькіх правакатараў, якія ў часе шэсця білі вокны ў Інтэрнаце Беларускай політэхнічнай акадэміі і ў крамах на праспекце. У правакатараў у кішэнях знайшлі ўлёткі экстрэмісцкага зместу, аўтарства якіх улады прыпісвалі сваім палітычным апанентам.

А ўвогуле шэсце і мітынг прайшлі вельмі спакойна і арганізавана. Некалькімі днямі раней у маскоўскай тэлепраграме "Садружнасць. Супольніцтва. Саюз" расійскія палітыкі выказалі адносна мінскіх падзей слушную думку: АМОН на вуліцах гэта ўжо правакацыя. Супрацьстаянне дэманстрантаў і міліцыі на мінскіх вуліцах — кепская рэклама для "Саюза РФ і РБ". Не выключана, што не толькі праз парады Масквы паводзіць сябе ў стасунках з апазіцыяй, пакуль ідзе абмеркаванне "статута саюза", больш стрымана, цывілізавана, але і праз уласны розум да ўлады нарэшце дайшло, што проста біць апазіцыю ўжо не мае сэнсу, бо гэта не дае чаканага эфекту і толькі нараджае арганізаваны супраціў..

У акцыі "Чарнобыльскі шлях-97" бралі ўдзел, як і ў мінулы раз, госці з замежжа. Летась — УНА-УНСО. Сёлета — госці з Масквы, некалькі дзесяткаў актывістаў Антыфашысцкага маладзёжнага дзеяння (АМД) са старшынёй Пятром Казначэевым. Палітычны твар АМД не надта выразны. АМД адначасова супраць імперыялізму і сепаратызму. Яны супраць камуністаў і фашыстаў, супраць абсалютызацыі ролі дзяржавы ў грамадстве, эканоміцы, палітыцы і культуры, але што прапаноўваецца замест — зразумець цяжка. Як, напрыклад, расшыфроўваецца кідкі тэзіс "Свет без нацыяў"?.. Адзіны пункт у праграме АМД, які робіць гэту арганізацыю папулярнай сярод моладзі — патрабаванне стварыць у Расіі прафесійнае войска, спыніць "гвалтоў-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пpycкі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Якія пласты беларускага народа найбольш пацярпелі ад бальшавіцкага тэрору?

*Народная Воля*

У бальшавіцкай ідэалогіі рэпрэсіі супраць так званых класавых ворагаў займалі адно з галоўных месцаў. Гвалт для дыктатуры пралетарыяту быў проста неабходны. На думку У.Леніна, толькі з дапамогай "узброеных рабочых" магчыма ажыццяўляць сацыяльнае развіццё, дзеля чаго можна праліць і "мора крыві".

Рэпрэсіі пачаліся амаль з першых месяцаў існавання савецкай дзяржавы. У 1917—1921 гадах яны былі накіраваныя галоўным чынам супраць "класавых ворагаў", якія вызначаліся паводле сацыяльнага стану ці партыйнай прыналежнасці. На Беларусі, дзе з прычыны нямецкай і польскай акупацыі савецкая ўлада ўсталявалася значна пазней, чым у Расеі, галоўны ўдар быў накіраваны супраць дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі, праваслаўных і каталіцкіх святароў, сяброў партыі беларускіх эсэраў.

Ва ўсіх губернскіх гарадах утвараліся "канцэнтрацыйныя лагеры". У Менску такі лагер быў арганізаваны ў жніўні 1920 года.

Але сапраўды масавымі рэпрэсіі сталіся ў 30-х гадах. У 1930—1934 гадах у асноўным вынішчалася заможнае сялянства, так званыя кулакі, або тыя, хто аказваў супраціў утварэнню калгасаў. "Кулацкімі ідэолагамі" была названа значная частка беларускай навуковай і творчай інтэлігенцыі. Сотні тысяч сялян (паводле розных крыніцаў, ад 4 да 15% усяго беларускага сялянства) былі высланыя ў папраўча-працоўныя лагеры, іх сем'і выселеныя за межы БССР.

Каб мець "падставу" для прыцягнення да крымінальнай адказнасці творчай і навуковай інтэлігенцыі Беларусі, органамі ГПУ—НКВД у 1930 годзе былі сфабрыкаваныя справы контррэвалюцыйных арганізацый — "Саюза вызвалення Беларусі", Беларускага філіяла "Працоўнай сялянскай партыі", у 1933—1934 гадах — "Беларускай народнай грамады", "Беларускага нацыянальнага цэнтра" ды іншых. Было асуджана "на перавыхаванне" ў папраўча-працоўных лагерах і выслана ў Сібір і Казахстан больш за тысячу чалавек: навукоўцы, пісьменнікі, настаўнікі, журналісты, выкладчыкі ВНУ.

У 1933—1934 гадах былі рэпрэсаваныя практычна ўсе святары як каталіцкай, так і праваслаўнай канфесіі, а таксама царкоўныя актывісты, абвінавачаныя ў антысавецкай дзейнасці.

Шмат было асуджана і расстраляна гаспадарнікаў — кіраўнікоў і простых работнікаў розных галін народнай гаспадаркі. Калі інтэлігенцыю, святароў, сялян абвінавачвалі ў асноўным па палітычных матывах, то гаспадарнікі "выкрываліся як шкоднікі". Па справах шкодніцтва ў сістэме Дзяржплана, жывёлагадоўлі, Трактарацэнтра, запалкавай прамысловасці ды іншых былі асуджаныя тысячы людзей.

У 1935—1936 гадах была ажыццёўленая "ачыстка" мяжы БССР ад "патэнцыяльных" ворагаў. У "аддаленыя мясцовасці СССР" было выслана больш за 20 тысяч чалавек.

Найбольшы размах рэпрэсіі набылі ў 1937—1938 гадах. Беларусь была "ачышчана" ад "контррэвалюцыйных элементаў і шпіёнаў". Толькі пры "выкрыцці" гэтак званага "Аб'яднанага антысавецкага падполля" асуджана больш за 2,5 тысячы чалавек, значная частка з іх расстраляна.

У 1937—1938 гадах праводзіцца масавая акцыя "па выкрыцці" польскіх, нямецкіх і латышскіх "шпіёнаў". Было арыштавана блізу 23,5 тысячы чалавек, больш як 21 тысяча з іх расстраляна.

Рэпрэсіі 1938 года закранулі ўсе пласты грамадства, у тым ліку і арганізатараў гэтых рэпрэсій. Былі арыштаваныя 99 сакратароў райкомаў КП(б)Б са 101, больш за 50 старшыняў райвыканкомаў, сакратары ЦК КП(б)Б.

Усе гэтыя працэсы паўтараліся пасля далучэння ў 1939 годзе Заходняй Беларусі. Прыпыненыя вайною, рэпрэсіі набылі там асаблівы размах у другой палове 40-х гадоў у сувязі з правядзеннем татальнай калектывізацыі і працягваліся аж да 1953 года.

У выніку "праведзенай працы" на Беларусі было ліквідавана найбольш дзейнае, працавітае і прадпрымальнае сялянства, практычна знішчана нацыянальная інтэлігенцыя, былі зачыненыя або зруйнаваныя цэрквы і касцёлы.

**Таццяна ПРОЦЬКА,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

**Нядаўна на газаправодзе Таржок-Менск-Івацэвічы адбыўся выбух. Паводле папярэдніх даных, выбух адбыўся ў выніку прасочваньня газу, які загарэўся. Пашкоджанымі аказаліся 50 мэтраў газаправоду. Самае страшнае заключаецца ў тым, што ў выніку пажару зьнішчана 10 гэктараў лесу. На шчасьце здарэньне абышлося без людзкіх ахвяраў. Не выключаецца падпольны сабатаж. Некаторыя прадбачаюць, што пасьля інтэграцыі Беларусі ў Расею, на Беларусі пачнецца народнае партызанскае змаганьне за незалежнасьць дзяржавы.**

# Злавесны цень

*ЛіМ*

З НАГОДЫ 127-Й ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ У. УЛЬЯНАВА-ЛЕНІНА

У свеце існуюць розныя сістэмы цэнтралізаванай сацыяльнай інжынерыі, да іх ліку адносяцца апартэід, фашызм і камунізм. На думку шэрагу палітолагаў, фашызм гэта толькі мала арганізаваны варыянт камунізму. Камунізм жа з'яўляецца фіналам фашызму, яго разнавіднасцю, але толькі больш злавесны і жывучы. Кубінскі літаратар Гільярма Кабрэра Інфантэ абмежаваўся кароткай формай афарызма: "Камунізм гэта фашызм бедных" ("Российская газета", 1993 г., 15 кастрычніка).

Пакуль бальшавізм ці фашызм жывыя, — заявіў Б. Ельцын ("Известия", 16 лістапада 1994 г.), — будзе існаваць небяспека гвалтоўнага захопу ўлады. Увесь гістарычны вопыт пацвярджае, што гэтыя ідэолагі прызнаюць толькі сваю манапольную ўладу. Яны могуць выкарыстаць дэмакратычны механізм толькі для прыходу да ўлады. Але, захапіўшы яе, знішчаюць саму магчымасць выбару народам свайго лёсу. Таму недаацэньваць камуна-фашысцкую небяспеку ў Беларусі проста безразважна. Цяпер важна не паўтарыць памылкі, якая прывяла наша грамадства да трагедыі ў кастрычніку 1917 года, калі абстрактна сфармуляваная бальшавікамі ідэя ў працэсе рэалізацыі стала ўласнай процілегласцю.

Адзінай кіруючай і накіроўваючай сілай нашага грамадства, што было ўзаконена канстытуцыяй, з'яўлялася ў СССР ленінская "партыя". Гэта яна "заруліла" найбагатую краіну ў гістарычны тупік і падвяла да бездані. КПСС павінна была прызнаць сваю віну за садзеянае, пакаяцца і сысці з палітычнай арэны. Але гэтага не магла дапусціць партыя, якая "перабудоўвалася". Яна абрала іншую тактыку: звальваць усё на сваіх памерлых лідэраў.

Бо куды бяспечней асуджаць не прагнілы бальшавіцкі рэжым, а памерлых дыктатараў, якія нібыта сказілі першасныя марксісцка-ленінскія ідэалы. Пры гэтым партапарат быў гатовы адхрысціцца ад каго заўгодна, толькі не ад галоўнага ідала — Леніна. Міф аб геніяльнасці і прадбачлівасці, чалавечнасці і дабрыні, прастаце і народнасці правадыра — гэта апошняе, што яшчэ хоць неяк ратавала "партыю" ад выкрыцця найвялікшай містыфікацыі. КПСС не была палітычнай партыяй, а таму не мела ніякай ідэалогіі ў прамым сэнсе гэтага слова, акрамя ідэі захопу ўлады і гвалту, калі мэта апраўдвае любыя сродкі для яе дасягнення.

Уся наступная за бальшавіцкім пераваротам у кастрычніку 1917 года вакханалія выцякае з ленінскага пастулата, што "ніякай прынцыповай супярэчнасці паміж савецкім (г. зн. сацыялістычным) дэмакратызмам і ўжываннем дыктатарскай улады асобных людзей няма!" Ужо тады за гэтай сатанінскай ідэяй паследавалі масавыя расстрэлы, дэпартацыі, канцэнтрацыйныя лагеры.

Пазнаёміўшыся з архівамі цёмнай партыйнай гісторыі ("Комсомольская правда", 2 кастрычніка 1991 г.), мы даведваемся пра шмат што, пасля чаго ў масавай свядомасці павінна, здавалася б, трывала ўкараніцца ідэя барацьбы з ленінізмам як чалавеканенавісніцкай дактрынай. У газеце цытуюцца сапраўдныя ленінскія дакументы: "...пастарацца пакараць Латвію і Эстландыю ваенным чынам (напрыклад, "на плячах" Балаховіча перайсці дзе-небудзь мяжу хоць на 1 вярсту і павесіць 100—1000 іх чыноўнікаў і багацеяў)..."; "Пад выглядам "зялёных" (мы потым на іх усё звалім) пройдзем на 10—20 вёрст і перавешаем кулакоў, папоў, памешчыкаў. Прэмія: 100000 руб. за павешанага..." Як можна пакланяцца і лічыць ідэйным правадыром чалавека, у галаве якога нараджаліся такія людаедскія ідэі?!

Яшчэ Г. Пляханаў прадказаў культ асобы Леніна і наогул кіраўнікоў партыі, пабудаванай на такіх пачатках. І праўда, Ленін пакінуў самы глыбокі шрам на твары нашай гісторыі. Вось толькі самы кароткі пералік яго крывавых злачынстваў: расстрэл царскай сям'і, расстрэл і дэпартацыя тысяч невінаватых па сфабрыкаванай справе пра "Кранштацкі мяцеж", знішчэнне і дэпартацыя каля 2 млн. казацтва. Яшчэ пры ім у 1923 годзе разгромлена 70 тысяч цэркваў і знішчаны тысячы святароў, многія з якіх былі пахаваны зажыва і закіданы трупамі наступных партый расстраляных. Бальшавікі дагэтуль не адмовіліся ад самага страшнага, што нараджае астатнія беды, гэта — самая нахабная хлусня ва ўсім...

Усяму народу ўбівалі ў галовы ленінскі лозунг "аб ператварэнні вайны імперыялістычнай у грамадзянскую", яго патрабаванні з прычыны і без яе масавага тэрору. Ніхто не праліў столькі крыві, колькі бальшавікі, якія лічылі тэрор сродкам для дасягнення мэты. Бо па Леніне маральна ўсё тое, што спрыяе класавай барацьбе пралетарыяту. Што гэта, як не апраўданне гвалту і падмурак наступных злачынстваў яго паслядоўнікаў і перш за ўсё крывавага ката ўсіх народаў, яго вернага вучня Сталіна? Але прызнаць памылкі і злачынствы Леніна для прававернага камуніста азначае, што бязмэтна пражыта жыццё!

Чаго варты галоўны тэзіс Леніна: "Пры савецкай палітычнай сістэме даць свабоду слова і друку — значыць пакончыць жыццё самагубствам"? Гэта азначае хаванне праўды ў імя сваіх антынародных мэт. У нас цяпер знікла ўнутранае цэнзарства і лягчэй стала дыхаць.

Толькі павярхоўна прыгадвалася аб недаверы Леніна да інтэлігенцыі. Не тое слова: ён яе баяўся, а таму і не любіў. Акрамя таго, бальшавікі, залІваючы грамадства клейкімі плынямі хлусні і сваёй святасці, у той жа час ліслівілі перад пралетарыятам (люмпенам) думкай аб святасці яго гістарычнай місіі. Інтэлігенцыя, у адрозненне ад люмпенаў, здольна мысліць, а значыць, мець сваю ўласную думку аб усім, што адбываецца, што зусім не задавальняла бальшавікоў. Таму інтэлігенцыю яшчэ пры Леніне эшалонамі і параходамі высылалі з краіны, а тыя, хто застаўся, былі канчаткова рэпрэсіраваны пры Сталіне.

Бальшавікі і фашысты, захопліваючы іншыя краіны, пачыналі кіраўніцтва са знішчэння цвету нацыі — інтэлігенцыі. На прыкладзе СССР і краін так званага сацыялістычнага лагера мы ясна бачым, што не можа быць здаровым грамадства, якое пагардліва ставіцца да сваёй інтэлігенцыі.

Дзесяцігоддзямі "рэвалюцыйны клас" пад пільным кіраўніцтвам бальшавікоў разбураў цэрквы, гістарычныя помнікі, культавыя святыні, наіўна мяркуючы, што менавіта гэтым стварае новае жыццё. У той жа час розныя ВЧК, АДПУ, НКУС, згодна тэорыі класавай барацьбы, знішчалі ўсіх, хто быў не згодзен з чалавеканенавісніцкімі тэорыямі бальшавізму. Калі не згодзен, то закляты вораг. Так у краіне падаўлялася ўсялякае іншадумства.

Да месца прыгадаць паэму Някрасава "Каму на Русі жыць добра". На сталбавой дарожцы сем мужыкоў "сошлися и заспорили, кому живется весело, вольготно на Руси". Імі былі пералічаны прадстаўнікі асноўных саслоўяў тагачаснай Расіі, а менавіта: памешчыкі, чыноўнікі, поп, купчына, баярын, царскі міністр і, нарэшце, сам цар. Дык вось, усе гэтыя саслоўі амаль пагалоўна былі знішчаны бальшавікамі, а самі мужыкі-сяляне пазбавіліся зямлі, уласнасці, волі і трапілі ў кабалу, мацнейшую за прыгоннае права.

Немагчыма зламаць навакольнае жыццё, не зламаўшы пры гэтым уласную душу. А людзі са зламанай душой — мяккі воск пад пальцамі фанатыкаў, авантурыстаў. Над імі можна праводзіць колькі заўгодна і якія заўгодна дзікунскія сацыяльныя эксперыменты. Правесці іх скрозь пякельныя кругі знішчэння "класавых ворагаў", да апошняга круга пекла, да 1937 года, да самазнішчэння. Мы ўжо столькі разоў апякаліся на гістарычных спрашчэннях, і зноў пачынаем спрашчаць, брацца за старое.

Ленін памёр 73 гады таму, але яго непахаваны труп прадаўжае тварыць яго чорныя справы. Лозунг бальшавікоў: "Ленін жыў, Ленін жывы, Ленін будзе жыць!", магчыма, і азначае, што яго дух пачаргова перасяляецца ў прадаўжальнікаў "бессмяротнай" справы — крывавай дыктатуры ў СССР на працягу 75 гадоў...

Цяперашнія спробы новых правадыроў неакамуністычных партый розных колераў і адценняў рэанімаваць КПСС з'яўляюцца пачварнай акцыяй, народжанай яшчэ больш пачварным бачаннем мінулага, вяртаннем да жахаў марксізму-ленінізму.

**Барыс ЖАГРЫН**

*г. Мінск*

## Генадзь ГРУШАВЫ:
# «ДАБРАЧЫННАСЦЬ — ГЭТА ПЕРШ ЗА ЎСЁ ДАБРО Ў ДУШЫ, А НЕ ДАБРО Ў КІШЭНІ»



ЗВЯЗДА

**«Звязда» ўжо доўгі час супрацоўнічае з Беларускім дабрачынным фондам "Дзецям Чарнобыля". Нашымі сумеснымі намаганнямі была наладжана акцыя «Выратаванне», у выніку ажыццяўлення якой шмат дзяцей з забруджанай зоны атрымалі канкрэтную дапамогу. Аб праблемах дзейнасці дабрачынных фондаў ішла гаворка падчас сустрэчы карэспандэнта «Звязды» са старшынёй Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзем ГРУШАВЫМ.**



***— Генадзь Уладзіміравіч, хутка пачнецца перыяд летняга адпачынку, і ваша арганізацыя ўжо сёння нейкім чынам рыхтуецца да ажыццяўлення сваіх дабрачынных праграм. Як можна ахарактарызаваць гэтую работу?***

— Сёння прыемна гаварыць аб тым, што актыўная работа беларускіх дабрачынных структур дала летась цудоўныя вынікі. Гэта можна бачыць перш за ўсё на колькасным росце прапаноў ад нашых замежных партнёраў, а значыць на высокім узроўні застаюцца заклапочанасць і імкненне да вырашэння наступстваў нашай нацыянальнай бяды.

Звычайна мы пасылаем за мяжу на працягу года дзесьці 15—20 тысяч дзяцей з чарнобыльскай зоны (з іх, дарэчы, прыкладна чацвёртая частка направу накіроўваецца нашымі раённымі падраздзяленнямі). У гэтым жа годзе колькасць запрашэнняў павялічылася прыкладна ў 1,5 раза. Такім чынам, 30 тысяч беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак набудуць цудоўную магчымасць аздаравіцца.

***— А якім чынам ажыццяўляюцца зараз дзяржаўныя праграмы, павінна ж быць пэўная, менавіта дзяржаўная, палітыка ў гэтым пытанні?***

— Складанае эканамічнае становішча, жорсткія ўмовы па бюджэтнаму фінансаванню тых праграм, што сёлета намечаны ўладамі, ставяць перашкоды на шляху аказання рэальнай дапамогі жыхарам чарнобыльскай зоны. Трэба заўважыць, што на працягу апошніх двух гадоў ідзе няўхільнае змяншэнне сродкаў, якія выдзяляюцца дзяржавай на сацыяльную абарону, на праграмы, звязаныя з Чарнобылем. Гэта, канешне, аб'ектыўна вызначана як рэаліі сённяшняга дня, але калі паглядзець з іншага боку, то падобная з'ява — вялікая бяда для жыхароў забруджаных рэгіёнаў (асабліва тых, што пражываюць у зоне, дзе радыяцыйны фон вызначаны на ўзроўні ад 1 да 5 кюры). Даныя навукоўцаў сведчаць, што там па-ранейшаму назіраецца рост захворванняў, асабліва сярод дзяцей. Якасць прадуктаў харчавання па фактару радыяцыйнай бяспекі патрабуе вельмі жорсткага кантролю. Калі ў дзяржаўных установах (школы, дзіцячыя садзікі) гэтае пытанне больш-менш кантралюецца, то тое, што вырошчваецца на ўласных палетках, не падпадае ні пад якія нормы (як сведчаць даследаванні прафесара Несцярэнкі, да 1/3 прадуктаў харчавання, спажываемых сёння ў зоне з радыяцыйным фонам ад 1 да 5 кюры, перавышаюць гранічна дапушчальныя паказчыкі па фактару радыяцыйнай бяспекі). Таму важна задумацца пра абарону здароўя менавіта гэтых людзей, падобныя меры павінны быць вызначаны як першачарговыя. І, калі дзяржава не заўсёды спраўляецца з вызначанай задачай, вельмі важна правільна арганізаваць пастаўку гуманітарнай дапамогі.

***— А што, узнікаюць нейкія перашкоды на шляху атрымання чарнобыльцамі замежнай гуманітарнай дапамогі?***

— Незразумелымі выглядаюць у гэтым пытанні некаторыя пастановы асобных міністэрстваў, якія на працягу апошніх трох-чатырох месяцаў паставілі, на маю думку, штучныя, надуманыя перашкоды на шляху паступлення ў Беларусь міжнароднай гуманітарнай дапамогі. У снежні мінулага года ўведзены ў дзеянне новыя правілы прыёму і размеркавання гуманітарнай дапамогі ў Рэспубліцы Беларусь, якія, дарэчы, толькі значна ўскладнілі парадак, што быў распрацаваны на працягу шэрага гадоў. Апошнім часам замежныя гуманітарныя канвоі тыднямі не могуць «растаможыцца» і разгрузіцца. У выніку шэраг замежных ініцыятараў на Захадзе ўжо перагледзелі свае праграмы. Больш таго, шмат нашых замежных партнёраў, даведаўшыся пра новыя правілы, адмовіліся ад прадастаўлення нам дапамогі і пераарыентаваліся на Расію і Украіну, дзе парадкі больш простыя.

Нядаўна з'явіўся яшчэ адзін дакумент, згодна з якім усе грузы, што паступаюць у парадку гуманітарнай дапамогі, не перадаюцца адразу той установе, якой яны прызначаюцца, а выгружаюцца на спецыяльных складах, дзе на працягу месяца праводзіцца іх карантынны кантроль і толькі пасля гэтай працэдуры трапляюць да адрасата.

Мы, дарэчы, сутыкнуліся з падобнай «навіной», калі прыйшла партыя інсуліну коштам амаль 300 тысяч марак. Гэтыя прэпараты трэба захоўваць кароткі тэрмін, і абавязкова ў халадзільніку, а тут выгрузілі на склад, апячаталі — і ўсё. Прыйшлося прыкласці шмат намаганняў, каб растлумачыць сітуацыю. Такія мерапрыемствы ставяць пад пагрозу ўсё будучае гуманітарнай дапамогі Беларусі. Між тым, каля 40 працэнтаў патрэбы чарнобыльскай зоны ў медыкаментах пакрываецца за кошт недзяржаўнай гуманітарнай дапамогі. Гэта афіцыйныя даныя Міністэрства аховы здароўя. Уявіце, які будзе нанесены ўрон, калі гуманітарныя канвоі да нас не будуць накіроўвацца ўвогуле. Пажадана, канешне, каб гэтая праблема была ў хуткім часе вырашана.

***— А чым можна патлумачыць узнікненне падобных адносінаў да гуманітарнай дапамогі з боку некаторых дзяржаўных устаноў?***

— На жаль, сёння неабходнага сацыяльнага партнёрства, узаемазацікаўленага супрацоўніцтва паміж грамадскімі дабрачыннымі ўстановамі і пэўнымі дзяржаўнымі структурамі пакуль не наладжана. Нашы ініцыятывы ўспрымаюцца як нешта незразумелае. Відаць, захоўваецца старая традыцыя. Гэтыя адносіны можна прасачыць хаця б на прыкладзе апошняй праверкі, што праводзілася ў нашым фондзе. Мы ўжо прывыклі да праверак, і, падкрэсліваю, як дабрачынная грамадская ініцыятыва фонд заўсёды адкрыты для любой праверкі, гэта прынцып дзейнасці падобных арганізацый ва ўсім свеце. Летась нас правяралі шэсць разоў, і заўсёды з'яўляліся станоўчыя водгукі. Калі размова ідзе пра грамадскія дабрачынныя ініцыятывы, дзе людзі працуюць толькі за кошт свайго асабістага ахвяравання на карысць іншых, то падобныя з'явы трэба толькі падтрымліваць. Задушыць добрую справу лёгка, а вось адняўшы не так проста.

***— Генадзь Уладзіміравіч, а як бы вы ахарактарызавалі амаль гадавое супрацоўніцтва вашага фонду з нашай газетай у межах акцыі «Выратаванне», работа ў гэтым напрамку працягваецца?***

— Так, для ўсіх нас работа ў межах гэтай акцыі — гэта неабходны і важны вопыт супрацоўніцтва. Пэўная паўза з нашага боку тлумачыцца толькі як спроба асэнсаваць пачатую справу, намеціць новыя шляхі. Зараз трэба глыбей паглядзець менавіта на акцыю «Выратаванне». Таму што дабрачыннасць — гэта не толькі дабро ў кішэні, гэта, перш за ўсё, дабро ў душы. Шмат залежыць ад пазіцыі людзей, ад іх магчымасці быць салідарнымі. «Выратаванне» ў гэтым сэнсе павінна ўспрымацца як выратаванне дабра, добрых адносінаў паміж намі. Пакуль на дадзеным этапе дабіцца актыўнага ўдзелу ў нашай справе грамадскіх, камерцыйных структур, асобных людзей не ўдалося. Спадзяюся, што яны пачуюць наша запрашэнне і адгукнуцца.

**Гутарыў Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

---

(Заканчэньне з 1-ае старонкі)

**ны прызыў". Гэта вельмі актуальна ў святле нядаўняй чачэнскай вайны і перспектыў далейшай суверэнізацыі рэгіёнаў РФ з магчымымі элементамі грамадзянскай вайны.**

**На мітынгу ля Палаца спорту бралі слова вядомыя дзеячы апазіцыі. Чарнобыльская праблематыка наўпрост звязвалася з палітычнымі рэаліямі Беларусі, з адсутнасцю дэмакратыі ў краіне. Адзначалася, што толькі пад дзесятую гадавіну Чарнобыля рассакрэцілася інфармацыя аб тым, што па загадзе Масквы вайсковая авіяцыя асаджала на Гомельшчыну і Магілёўшчыну чарнобыльскія хмары. Па сутнасці, савецкія ваенна-паветраныя сілы здзейснілі ядзерную бамбардзіроўку беларускіх гарадоў і вёсак. З абурэннем гаварылі выступаючыя аб палітыцы ўлады, скіраванай на ліквідацыю грамадскіх чарнобыльскіх фондаў, найперш фонду "Дзецям Чарнобыля".**

**Яскравае сведчанне нязздольнасці ўлады вывесці краіну з крызісу — гэта рашэнні аб накіраванні ў зону маладых спецыялістаў, уключэнне ў гаспадарчы абарот забруджаных земляў...**

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

**ЛіМ.**

---

## Кася Камоцкая: «Мне здавалася, што я па пальцах магу пералічыць усіх беларусаў у гэтай краіне»

Кася Камоцкая — вядомая вакалістка рок-гурта «Новае неба». Яе імя знаёма практычна ўсім аматарам беларускага рок-н-рола. Кася, якая вось ужо амаль дзесяць год аддала рок-н-ролу і вывела «Новае неба» ў пяцёрку лепшых беларускіх гуртоў, музычнай адукацыі не мае. Яна скончыла гістарычны факультэт і нейкі час нават працавала ў лабараторыі сацыялагічных даследаванняў.

СВАБОДА

**— Кася, раскажы, як усё пачыналася? Як пачалося «Новае неба», як пачалася Кася Камоцкая?**

— Дзесяць год таму я пачала пісаць музыку на словы Купалы, Гаруна, іншых беларускіх паэтаў. Калі пазнаёмілася з гуртом «Мроя», яго ўдзельнікі згадзіліся аранжыраваць мае песні. Мы нават запісалі на беларускім радыё дзве з іх у акустычным варыянце. Потым «Мроя» ўзялася мне дапамагаць. Яна ўжо тады была вядомая. Беларуская музычная тусоўка ў той час была вельмі аб'яднаная, усе былі разам.

**— А як ты ацэньваеш сённяшнюю беларускую музычную тусоўку?**

— Беларуская ці беларускамоўная — я не стала б іх раз'ядноўваць. Канешне, у нас ёсць групы, якія канкурэнтаздольныя на сусветным рынку. Уся справа, напэўна, у нацыянальнай адметнасці ў музыцы. Мне даводзілася выступаць і ў Францыі, і ў Даніі, дарэчы, на адным з вельмі прэстыжных сусветных фестываляў рок-музыкі «Роскалд». На адной сцэне з намі выступалі такія мэтры, як Рэй Чарлз, Крыс Айзек, «Мотархэд». Тры дні сапраўднага свята, гледачамі якога былі сто тысяч чалавек. Толькі ўваход каштаваў сто долараў. Я і «Новае неба» спявалі сапраўдную беларускую музыку, на сапраўднай беларускай мове. Нас выклікалі «на біс» разы два ці тры, што для мяне было вельмі радасна. Мне здаецца, што сёння мы ўсё робім яшчэ лепей.

**— Музычная тусоўка звязана паміж сабой, вы ўсе часта сустракаецеся?**

— Безумоўна, усе мы — сябры, таму што кола беларускіх музыкантаў, на жаль, вельмі вузкае. Рок-н-рольная тусоўка, паэтычная тусоўка — усе мы адзін аднаго ведаем і падтрымліваем. Але тое, што адбываецца апошнім часам, для мяне вельмі ўсцешна. Напрыклад, гурт «NRM» запрасілі ў клуб «Тры парсючкі», ад пачатку рускамоўны. Сёння беларускасць — як знак процістаяння рэжыму і самавольству. Гэта вельмі прыемна, што беларускамоўныя гурты запрашаюць у клубы. Я ніколі не чакала, што на мой нядаўні канцэрт у Тэатры юнага гледача прыйдзе так шмат людзей — мне здавалася, што я па пальцах магу пералічыць усіх беларусаў у гэтай краіне. Я прыемна здзівілася, што сабралася столькі людзей, якія прыйшлі не пабалдзець і выпіць піва, а неяк энергетычна падсілкавацца.

**— Ты часта атрымліваеш запрашэнні дзе-небудзь выступіць?**

— Так. У асноўным запрашаюць у «салянкі» (так музыканты называюць сольныя выступленні ў клубах. — М.Р.). Мне здаецца, што запрашаюць беларускамоўныя рок-н-рол у знак процістаяння гэтаму рэжыму.

**— Кася, не крывячы душой, скажы, хто з беларускіх гуртоў самы прафесійны?**

— О-о-о, усе вельмі прафесійныя. Гэтыя людзі ўжо так доўга ў рок-н-роле!

**— А як нашы справы з новымі гуртамі, якія пакуль, можа, не зусім вядомыя шырокай публіцы?**

— Калі я працавала на Радыё 101,2, то ведала некаторых. Яны прыносілі касеты, каб пракруціць у маёй праграме «ПраРОК». А сёння ўсе электронныя СМІ настолькі адвярнуліся ад беларускага рок-н-рола, ад моладзі і ад рэчаіснасці, што нават мне цяжка даведацца нешта новае. Мне здаецца, усё гэта замоўчваецца свядома і мэтанакіравана! Сёння ўвогуле няма рэальнай карціны, што робіцца ў краіне — як у сферы рок-н-рола, так і ў эканоміцы і ва ўсім астатнім.

**— Кажуць, нібыта ты збіралася пакінуць краіну «пад белым сцягам»?**

— Думка такая была, яна ёсць і цяпер. Але пакуль тут мяне ўтрымлівае цікаўнасць да таго, што раблю я і робяць мае сябры, падтрымка з боку моладзі. Мяне ўтрымлівае тое, што беларуская моладзь таксама не збіраецца жыць усё сваё жыццё пры гэтым рэжыме.

*Гутарыла*
**Марына РАССАФОНАВА**

### Сакрат Яновіч у ЛіМ'е глаголіць...

...Дык што ўрэшце чакае Беларусь? Адказ вельмі просты: чакае яе грамадзка-гаспадарчая катастрофа, развал і хаос. Каб гэтага ня сталася, трэба, каб ці ажыццявілася мара Лукашэнкі, ці каб выйшаў ён на прэзыдэнцкую пэнсію. Тое ці другое павінна было-б адбыцца неўзабаве. Ды яно не адбудзецца, і адносна гэтага ня трэба самападманвацца. Савецкая стыхія будзе жыць дзесяцігодзьдзі. Давядзецца нам доўга суседнічаць з анахранічнай дэспатыяй, што мяне тым больш засмучае, бо вынішчаецца дух нацыі, яе культура.

### Мы Беларускае Вызваленчае Войска

бяром на сябе адказнасьць за абстрэл расейскай амбасады ў Менску, выбух на газакампрэснай станцыі каля Крупак ў ноч 28 красавіка, падрыў трубы магістральнага газапроваду ў раёне Узды раніцай 30 красавіка 1997 г. Гэтыя акцыі — папярэджаньне маскоўскім інтэгратарам і беларускім халуям. Пад відам інтэграцыі яны забясьпечваюць стратэгічныя інтарэсысы "Вялікай" Расеі, пазбаўляюць беларускі народ найвялікшага здабытку — незалежнасьці, прадаюць будучыню нашых дзяцей і ўнукаў. Мы разглядаем інтэграцыю як анэксію Беларусі з Расеяй і ўсе дзеяньні супраць гэтага як барацьбу за незалежнасьць Бацькаўшчыны. Нашыя мэты: узнаўленьне дзеяньня беларускай Канстытуцыі, усталяваньне беларускага ладу ў Беларусі, барацьба з рэжымам Лукашэнкі, супроцьдзеяньне імпэрскім памкненьням Расеі анэксаваць Беларусь. У сувязі з гэтым:
На падставе Канстытуцыі 1994 году абвяшчаем рэжым Лукашэнкі і яго памагатых па-за законам. Сьвядомасьць і абавязак кожнага сумленнага жыхара Беларусі змагацца за Канстытуцыю 1994 году з рэжымам Лукашэнкі ўсімі магчымымі сродкамі ў тым ліку і збройна....

(Надаслана з Кіева)

*Хто прыпеўкі вам спявае —*
*Польскія ды рускія,*
*А я з гонарам спяваю*
*Нашы — беларускія.*

*Беларуская старонка*
*Славіцца абрусамі.*
*Бульбай, салам, самагонам*
*Ды й хлапцамі русымі.*

*Мяне мамічка радзіла,*
*Думала, харошая.*
*Развярнула, паглядзела:*
*Рыжая, курносая.*

*Усе дзяўчаты як дзяўчаты,*
*Ну, а я як калабок.*
*Завярнулася ў канаву,*
*Мужык трактарам валок.*

*А прыпевачкі спяваць*
*Не так ужо і проста*
*Але я буду спяваць*
*Гадоў да дзевяноста.*

Леанід ЛЫЧ

# Сваёй уласнай мовай славіць Яго...

## ІДЭЯ АЎТАКЕФАЛЬНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

(Заканчэньне. Пачатак у папярэднім № газэты)

Праваслаўная Царква Беларусі моцна паплацілася за сваю адданасць ідэі аўтакефаліі. Пасля выгнання нямецкіх акупантаў Маскоўская патрыярхія не дазволіла ёй мець нават мітраполію і дала толькі права на заснаванне епіскапіі, цэнтр якой знахо-дзіўся ў Мінску.

Крайне варожа паставіўся Маскоўскі патрыярхат і да Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (ПАПЦ) Беласточчыны, якая абслугоўвала пераважна беларускае насельніцтва гэтага краю. Накіраваны сюды А. Мікалай Вінцукевіч усё рабіў, каб падпарадкаваць парафіі ПАПЦ Маскоўскаму патрыярхату. Паводле яго рашэння ад 22 лютага 1945 г. галоўны горад Праваслаўнай Царквы ў Польшчы Бельск-Падляскі стаў цэнтрам Беластоцкай праваслаўнай епархіяльнай царквы Рускай Праваслаўнай Царквы. У святароў, якія адмаўляліся падпарадкоўвацца прадстаўнікам Маскоўскага патрыярхату, адбіралі права на служэнне. Сярод іх быў і а. Канстанцін Байко, якога 16 сакавіка 1946 г. затрымалі проста на вуліцы і праз нейкі час даставілі ў Брэст, а затым у Мінск. Адсюль амаль праз год быў накіраваны ў адзін з варкуцінскіх лагераў.

Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў месцам дзейнасці епіскапата БАПЦ стала Заходняя Нямеччына. Пераехаўшы за мяжу, кіраўнікі БАПЦ імкнуліся і там забяспечыць рэлігійнае абслугоўванне сваіх вернікаў. Вялікую стараннасць у гэтым праяўляў айцец Мікалай Лапіцкі. У заходнегерманскім горадзе Рэгенсбургу а. Мікалай арганізаваў беларускі праваслаўны прыход і кіраваў пабудовай царквы, якая ў 1946 г. была асвечана ў гонар апякункі беларускай зямлі Св. Еўфрасінні Полацкай.

Да праваслаўных вернікаў-беларусаў вельмі хутка дайшла вестка, што епіскапы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы вядуць закулісныя перамовы з Расійскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквой (РЗПЦ) і нібыта гатовыя перайсці пад яе юрысдыкцыю. Гэта моцна занепакоіла нацыянальна свядомую частку праваслаўных беларусаў. Але сярод нашай дыяспары меліся і людзі зусім процілеглых поглядаў на даную праблему. Імі вельмі цікавілася і як магла ўплывала ў пажаданым накірунку РЗПЦ. І як неўзабаве высветлілася, сярод праваслаўных беларусаў замежжа прыхільнікаў аўтакефальнай царквы ніколькі не больш, чым яе праціўнікаў. Гэтага, магчыма, не чакаў нават сам кіраўнік БАПЦ Панцеляймон. Па розных прычынах ён адышоў ад сваіх былых аўтакефальных пазіцый і прыняў у лютым 1946 г. рашэнне аб далучэнні БАПЦ да Рускай Замежнай Праваслаўнай Царквы, чым выклікаў буру гневу з боку не толькі духавенства беларускай нацыянальнай арыентацыі, але і асноўнай масы праваслаўных вернікаў.

Але ўгаворы і пратэсты не дапамаглі. У красавіку таго ж года на саборы епіскапаў РЗПЦ у Мюнхене Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква па волі свайго кіраўніцтва адмаўляецца ад статуса, якога адданыя нацыянальнай ідэі святары змаглі дамагчыся ў цяжкія гады фашысцкай акупацыі.

Каб вызначыць адлаведна з новымі ўмовамі лад рэлігійнага жыцця ў эміграцыі, у траўні 1946 г. у Рэгенсбургу склікаецца з'езд праваслаўных беларусаў з усіх трох зон Нямеччыны. На ім прысутнічала 136 вернікаў, у т. л. епіскап Віцебскі і Полацкі Апанас і архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Філафей. Калі ад апошняга ўдзельнікі з'езда даведаліся, што кіраўніцтва БАПЦ звярнулася з просьбай аб прыняцці яе ў лона РЗПЦ, імі была прынята наступнага зместу заява: "Мы, праваслаўныя беларусы, прадстаўнікі ўсёй беларускай эміграцыі ў Заходняй Нямеччыне на агульным Беларускім Праваслаўным З'ездзе з дня 5 траўня 1946г. просім наш Беларускі епіскапат, які знаходзіцца на эміграцыі ў Тырсгайме (Баварыя), каб ён захаваў усю тую поўную арганізацыйнай сваёй самастойнасці, з якой ён прыбыў з Бацькаўшчыны, не ўліваючыся ані ў якой форме ў "Расейскую Зарубежную Царкву", якая поўнасцю ігнаруе нашы імкненні да Беларускай нацыянальнай самастойнасці, просім, захоўваючы чыстым дагматычна-кананічны бок нашай Беларускай Праваслаўнай Царквы, увайсці ў малітвеннае абшчэнне з іншымі самастойнымі цэрквамі, як адміністрацыйна самастойная адзінка". Даведаўшыся, што кіраўніцтва БАПЦ не прыслухалася да гэтай разумнай заявы і з яго згоды беларускія праваслаўныя епіскапы разам з іх вернікамі фармальна далучаны да РЗПЦ, праваслаўныя беларусы Рэгенсбурга не падтрымалі гэтую, на іх думку, здрадніцкую ініцыятыву. Яны не далі дазволу епіскапу Апанасу справіць багаслужбу ў беларускім лагеры гэтага горада. Створанае ў траўні 1946 г. у Рэгенсбургу Беларускае Праваслаўнае Аб'яднанне цвёрда вырашыла працягваць барацьбу за сваё незалежнае ад РЗПЦ існаванне. 5 чэрвеня 1947 г. яно, як піша К. Мерляк, "падало да ведама беларускага грамадства пратэст супраць самавольнага далучэння Беларускай епархіі да Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы, аднача сна асуджаючы іх паступак "здрадай беларускаму народу".

Па ўсім відаць было, што ідэя аўтакефальнасці беларускай праваслаўнай царквы неўзабаве зноў усплыве на паверхню. І сапраўды, справа няўхільна ішла да гэтага, хаця на чужыне яе не так і было лёгка вырашыць. Свецкія беларускія дзеячы пачалі ў час неафіцыйных сустрэч з епіскапам Апанасам схіляць яго адыйсці ад рускага Сінода і ўзяць на сябе кіраванне беларускімі царкоўнымі справамі, але той адмовіўся. У гэтай складанай сітуацыі добрую паслугу беларусам аказала Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква (УАПЦ), якая існавала на эміграцыі. З удзелам яе іерархаў 4-5 чэрвеня 1948 г. у Канстанцы (Заходняя Нямеччына) праходзіў першы з'езд беларускага праваслаўнага духавенства, на якім і была заснавана БАПЦ на эміграцыі. На ім выбралі часовае кіраўніцтва і Канцысторыю БАПЦ, куды ўвайшлі епіскап УАПЦ Сергій (Ахоценка), які ўзначаліў беларускі епіскапат, пяць беларускіх святароў і некалькі вернікаў. "Перадача часовага епіскапскага кіраўніцтва Прасвяшчэнным Сергіем сталаму кіраўніцтву, — зазначалася ў прынятай на з'ездзе пастанове, — наступіць з хвілінай наяўнасці не менш двух беларускіх епіскапаў у Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, жадаючых стварыць сталае кіраўніцтва БАПЦ і кіраваць Ёю на славу праваслаўнай веры ў Беларускім Народзе на векі вечныя".

18 снежня 1949 г. у баварскім горадзе Розенгейме адбылося пасвячэнне на епіскапа БАПЦ архімандрыта Васіля (Уладзіміра Тамашчыка). Хіратонію выканалі епіскапы УАПЦ Платон і Вячаслаў, з удзелам епіскапа Сергія БАПЦ. Такім чынам, утварыўся сабор епіскапаў БАПЦ. Архіерэй Сергій — кіраўнік Сабора епіскапаў БАПЦ і епіскап Васіль — сакратар Сабора епіскапаў БАПЦ на чужыне. На другі дзень пасля хіратоніі ўкраінскія епіскапы Сергій, Платон і Вячаслаў разам з украінскімі і беларускімі святарамі, а таксама грузінскім айцом Дэмітрашвілі адправілі ўрачыстую багаслужбу. У алтары царквы ў гэты час знаходзіўся і прадстаўнік ад беларускага каталіцкага духавенства а. Салавей.

Беларускія іерархі, што далучыліся да РЗПЦ, а разам з імі кіраўніцтва БЦР (старшыня прафесар Радаслаў Астроўскі) усяляк пратэставалі супраць нанова створанай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Добра перапала і УАПЦ за падтрымку апошняй. Праўда, пазней БЦР змяніла свае адносіны да РЗПЦ, якая адкрыта праводзіла антыбеларускую палітыку. 15 верасня 1950 года Прэзідыум Пленума БЦР і Калегія БЦР асудзілі далучэнне беларускіх епіскапаў да РЗПЦ і сцвердзілі, што "дзеля залучэння праўдзівае духавае апекі беларускай праваслаўнай эміграцыі будзе найбольш мэтазгодным часовае прызнанне юрысдыкцыі тых кананічных цэркваў, якія ёсць незацікаўленымі ў нацыянальнай асіміляцыі беларускіх вернікаў".

Заснаваную ў эміграцыі БАПЦ не прызналі ні Руская Праваслаўная Царква за мяжой, ні Маскоўская патрыярхія, ні Мінская епархія. Але насуперак іх волі БАПЦ працягвала існаваць, прымнажаючы свой уклад у арганізацыю беларускага рэлігійнага жыцця за мяжой.

З далучэннем у 1946 г. Беларускай іерархіі да РЗПЦ і ўтварэннем у 1949 г. БАПЦ адбыўся вельмі шкодны раскол праваслаўных вернікаў беларускай дыяспары на два лагеры. Прыхільнікаў РЗПЦ з ліку беларусаў сталі называць "зарубежнікамі", а за тымі, хто належаў да БАПЦ, зацвердзілася назва "крывічы", якую ўжо да гэтага насілі прыхільнікі Беларускай Народнай Рэспублікі (бээнэраўцы).

З заснаваннем БАПЦ ствараюцца яе прыходы ў шэрагу гарадоў Заходняй Нямеччыны, Англіі, Бельгіі і Францыі, а з пераездам многіх беларусаў у ЗША, Канаду, Аўстралію — там. Туды падаліся архіепіскап БАПЦ Сергій (Аўстралія) і яе епіскап Васіль (ЗША).

Па невядомых прычынах у 1959 годзе ўзнікла яшчэ адна БАПЦ. Адбылося гэта ў Чыкага. На епіскапа БАПЦ хіратанізавалі архімандрыта Уладзіміра Фінкоўскага, вядомага з 1942 г. як адміністратара Беларускай Праваслаўнай Царквы. З высвячэннем на епіскапа У. Фінкоўскі прыняў тытул епіскапа Мінскага і ўсяе Беларусі. Лічыцца, што тагачасныя падзеі ў Чыкага не адпавядалі патрэбам беларускай нацыянальнай справы і вялі да расколу беларускіх вернікаў праваслаўнай рэлігіі. Ліквідавана другая БАПЦ у 1961 г.

Другі Усебеларускі сабор БАПЦ, закладзенай у 1949 г., адбыўся ў 1972 г. у Хайленд-Парку (прадмесце Нью-Брансвік, штат Нью-Джэрсі). Пад гэты час ужо закончылі сваё зямное жыццё епіскап Васіль (1970) і архіепіскап Сергій (1971). Значэнне Другога Усебеларускага сабора заключаецца ў тым, што ён зацвердзіў Раду, Кансісторыю і Рэвізійную камісію. Мітрапалітам БАПЦ удзельнікі сабора выбралі Андрэя, месцам знаходжання якога стаў амерыканскі горад Клійленд. Пасля гэтага яшчэ два разы адбываліся Саборы БАПЦ: Трэці ў 1984 г. у Хайленд-Парку, чацвёрты — тамсама ў 1991 г. Кіраўніком БАПЦ выбіраўся Мікалай з канадскага горада Таронта, якому на апошнім саборы надалі тытул яе мітрапаліта.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на эміграцыі шмат зрабіла па паяднанні сваіх вернікаў, аднак да поўнай згоды нават у самых вярхах духавенства не ўдавалася прыйсці. Вось як характарызуе апошнія гады яе дзейнасці Вітаўт Кіпель: "У пачатку 1980-х гадоў у асяроддзі духавенства і вышэйшай іерархіі БАПЦ узніклі рознагалоссі, у выніку якіх, наваспечаны епіскап Ізяслаў пачаў склікаць свае саборы, не прызнаючы сану архіепіскапа Мікалая. На 1-м саборы ў 1984 г. у г. Манчэстэр архіепіскап Ізяслаў быў выбраны мітрапалітам. 2-і сабор адбыўся ў 1990 г. у г. Бруклін (ЗША). З мэтай урэгуляваць непаразуменні архіепіскап Мікалай склікаў у 1983 г. у Кліўлендзе Надзвычайны сабор БАПЦ, але разыходжанні засталіся. Спробы ліквідаваць іх з дапамогай цывільных амерыканскіх судоў таксама не далі вынікаў, і цяпер пад назвай БАПЦ дзейнічаюць 2 царкоўныя арганізацыі".

Становча, што кожная з гэтых праваслаўных царкоўных арганізацый вядзе службу на трывалым беларускім культурна-моўным падмурку. Вось як на гэтую праблему глядзіць мітрапаліт БАПЦ у ЗША Ізяслаў: "Царква мае вялікі ўплыў у народзе. Яна павінна выхоўваць яго ў веры і нязменных хрысціянскіх традыцыях. Каб рэалізаваць належна сваю місію асветніцы народа, яна павінна быць самастойнай. Згодна з традыцыямі, запачаткаванымі святымі апосталамі на Усходзе, кожны народ павінен мець сваю незалежную царкву".

Нягледзячы на рознага роду непаразуменні ў вярхах беларускага аўтакефальнага праваслаўнага духавенства, у нізах часта ішло спакойнае царкоўна-рэлігійнае жыццё. Такім яно было ў заснаванай у 1950 г. у Нью-Йорку для беларускіх вернікаў парафіі, для якой у 1957 г. набылі салідны царкоўны будынак. "Першым настаяцелем парафіі стаўся а. Фёдар Данілюк... Пад ягоным кіраўніцтвам парафія зазнала росквіт. Царква стала цэнтрам беларускага грамадскага жыцця, тут ладзіліся разнастайныя сустрэчы, сходы, канферэнцыі. Пры царкве дзейнала вельмі добрая беларуская нядзельная школа, там часта збіралася моладзь, а часам царква служыла месцам сустрэчы шырэйшае этнічнае грамады ў Брукліне". Але са смерцю 29 ліпеня 1960 г. а. Фёдара Данілюка ўзніклі ўнутры парафіі сур'ёзныя непаразуменні, давялося перажыць "шэраг расколаў, якія значна зменшылі яе значэнне і

ўплыў у беларускай грамадзе" (В. Кіпель).

Больш шчаслівым аказаўся лёс праваслаўных прыходаў у Кліўлендзе (штат Агаё), Нью-Брансвіку-Хайленд-Парку (штат Нью-Джэрсі), у Дэтройце (штат Мічыган).

Цяперашняе кіраўніцтва БАПЦ за мяжой займае вельмі прынцыповую пазіцыю ў пытаннях канфесійнай незалежнасці і згодна пайсці на паяднанне з Беларускай Праваслаўнай Царквой, як заявіў мітрапаліт Мікалай, першаіерарх БАПЦ, знаходзячыся ў 1992 г. у Мінску, толькі з умовай, "каб Царква на Беларусі стала на аўтакефальны лад. Царква, пакуль яна залежная (ад Маскоўскага патрыярха. — **Л. Л.**) — не мае свайго поўнага голасу". Запярэчыць уладыку Мікалаю я не бяруся, бо цалкам пагаджаюся з яго словамі. На здзіў блізу ўсіх мясцовых святароў, мітрапаліт Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы ў Канадзе Мікалай першым за ўвесь пасляваенны перыяд адслужыў тады ў нашай рэспубліцы літургію ў беларускай мове. Гэта па-сапраўднаму гістарычная падзея ў царкоўна-рэлігійным жыцці адбылася ў будынку Мінскай епархіі.

Прыезд у Мінск у 1992 г. першаіерарха БАПЦ мітрапаліта Мікалая не стаў радаснай падзеяй для экзарха Беларусі Філарэта. Паміж імі адбылася толькі прыватная гутарка. Правесці службу дазволілі мітрапаліту Мікалаю толькі ў дамовай царкве экзарха Філарэта і ў саборы святых апосталаў Пятра і Паўла, але не ў кафедральным саборы беларускай сталіцы.

Сваю пазіцыю па пытанні аўтакефальнасці праваслаўнай царквы так сфармуляваў мітрапаліт мінскі і слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт у інтэрв'ю для газеты "Звязда" (5 кастрычніка 1993 г.): "Ні адна памесная Праваслаўная царква не мае царкоўнага права сама прысвойваць сабе аўтакефалію, як і годнасць Патрыярха. Такія дзеянні могуць рабіць толькі раскольнікі, якія самі сябе робяць мітрапалітамі і патрыярхамі..." Філарэт прызнаў кананічнымі толькі тыя беларускія цэрквы за мяжой, "якія знаходзяцца пад юрысдыкцыяй Канстанцінопальскага Патрыярхата". Калі б у свой час паглядаў экзарха Беларусі прытрымліваліся мітрапаліты Рускай Праваслаўнай Царквы Маскоўскай дзяржавы, Расія ні ў якім разе не атрымала б уласнага Маскоўскага Патрыярхата і працягвала б па сёння знаходзіцца ў поўнай залежнасці ад Канстанцінопальскай патрыярхіі. Апошняй страшэнна не падабаўся сепаратызм Маскоўскай мітраполіі, але нарэшце давялося згадзіцца з яе незалежнасцю. Таму нічога не здарыцца і з Маскоўскім патрыярхатам, калі ад яго аддзеліцца Беларуская Праваслаўная Царква і стане поўнасцю незалежнай, аўтакефальнай. Мы проста не маем права не выкарыстаць становішча гістарычнага вопыту змагання Рускай Праваслаўнай Царквы Маскоўскай дзяржавы за сваю самастойнасць.

Набыты ў эміграцыі БАПЦ пазітыўны вопыт арганізацыі рэлігійнага жыцця так і просіцца быць перанесеным на Беларусь, што магло б істотна паўплываць на ход яе сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Думкі такія выказваюцца даўно і многімі. Няма прычын, каб яны не сталі рэальнасцю. І зразумела, Аўтакефальная Праваслаўная Царква на Беларусі не павінна быць такой, як на Беласточчыне, якая правіць службу на рускай мове. Толькі ад нязначнай часткі яе святароў, што працуюць на вёсцы, беларусы могуць пачуць казанні на сваёй роднай мове. Быць аўтакефальнай — гэта значыць найперш будаваць сваю царкоўна-рэлігійную дзейнасць у адпаведнасці з нацыянальнымі традыцыямі і інтарэсамі вернікаў, ужываць скрозь і паўсюдна іх родную мову. На вялікі жаль, яна вельмі мізэрную ролю выконвае сёння ў богаслужэнні Беларускай Праваслаўнай Царквы. Калі і надалей так будзе працягвацца, наўрад ці спраўдзяцца спадзяванні, выказаныя 9 сакавіка 1992 г. мітрапалітам Мікалаем, першаіерархам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, і протаіерэем а. Георгіем Латушкам, настаяцелем Св. Петрапаўлаўскага сабора, галоўным апекуном Праваслаўнага Брацтва трох Віленскіх пакутнікаў у "Слове да народа Беларусі": "І загучыць у нашых святынях родная мова, і заззяе свята Божае праўды над домам нашым..." Прамоўленыя беларусамі словы не на роднай мове наўрад ці калі будуць пачутыя Богам, бо, як пісаў мітрапаліт Ізяслаў, першаіерарх нашай другой у эміграцыі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў "Пастырскім пасланні Беларускаму Народу" з нагоды абвяшчэння 25 жніўня 1991 г. незалежнасці Беларускай рэспублікі, Вялікі Творца "пусціў наш Народ на свет, каб роўна з іншымі народамі сваёй уласнай мовай славіў Яго ў непаслужнай нікому хрысціянскай супольнасці..." І да ўсведамлення велізарнай ролі сваёй роднай мовы ў набажэнстве рана ці позна, але ўсё ж прыйдуць і вернікі, і духавенства Беларускай Праваслаўнай Царквы.



# Адступаць няма куды...

**_У найскладанейшай грамадскай атмасферы і ў самых цяжкіх за ўсе восем гадоў свайго існавання матэрыяльных умовах 12 красавіка ў сталічным Доме літаратара прайшоў V з'езд рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны._**

Акрамя зарэгістраваных 141 дэлегата, што прадстаўлялі 58 структурных падраздзяленняў таварыства, на з'ездзе прысутнічалі шматлікія госці і журналісты.

Нягледзячы на запрашэнні, з'езд быў праігнараваны Беларускім тэлебачаннем і ўсімі галінамі ўлады, у тым ліку Міністэрствам адукацыі РБ, а таксама кіраўніцтвам праваслаўнай царквы, якія не накіравалі на яго нават сваіх назіральнікаў.

Ва ўступным слове старшыня ТБМ Ніл Гілевіч адзначыў, што ў справаздачныя (пасля папярэдняга з'езда) два гады развіваўся і набіраў сілу ўсеахопны працэс знішчэння ўсяго таго, што з такімі цяжкасцямі было набыта грамадствам за кароткі тэрмін незалежнасці, — беларускай мовы, школы, сапраўднай гісторыі, парасткаў нацыянальнай свядомасці. Кволая духам нацыянальная эліта не здолела процістаяць гэтай самаразбуральнай хвалі. Горка і цяжка бачыць і чуць, як ламаюць псіхіку людзей, як АМАП літаральна ўчыняе паляванне на тых, што складае гонар і годнасць нацыі і краіны, як з тэлэкранаў прапаведваецца філасофія нацыянальнага самазабойства. Подласць і здрада адбываюцца на фоне дэмагагічнай гаварыльні пра выкананне "законнасці" і "роўнасць" дзвюх моў, "за што прагаласаваў народ". Апошняй з'явай у гэтым злачынным ланцугу стала расправа над газетай "Наша слова", дзяржаўная датацыя на якую была спынена з 1 красавіка бягучага года.

Цяжкае, крытычнае становішча склалася зараз і ў самім ТБМ. Статут таварыства фактычна ператварыўся ў чыста фармальную дэкларацыю, грамадская дзейнасць ажыццяўляецца вельмі квола. Многія першасныя суполкі, асабліва ў правінцыі, практычна спынілі сваё існаванне, пра што ў цэнтры нават не заўсёды і ведаюць, бо адсутнічае прамая сувязь з рэгіёнамі.

Але ж за апошнія гады руплівцы беларушчыны набылі каштоўны вопыт і, трэба спадзявацца, зробяць неабходныя і цвярозыя высновы з усяго таго, што адбываецца ў краіне, і са сваёй уласнай дзейнасці. Стаўка зараз павінна рабіцца на працавітую і таленавітую моладзь, якая выявіла сваю самаахвярную адданасць беларускай справе і якая па праву павінна ўвайсці ў кіраўнічыя структуры ТБМ.

Першы намеснік старшыні ТБМ Вольга Кузьміч расказала прысутным, што, у апошнія гады па ўсёй Беларусі ідзе наступ на беларускую школу, што суправаджаецца езуіцкімі разважаннямі пра "роўныя магчымасці" і "свабодны выбар" бацькоў. І гэта пры тым, што летась каля 85 працэнтаў абітурыентаў абралі беларускую мову для ўступных экзаменаў. Калі раней дзяржава спрыяла дзейнасці ТБМ, то зараз таварыства вымушана пераадольваць актыўны супраціў дзяржаўных структур. Нягледзячы на крытычнае фінансавае становішча, прыхільнікаў арганізацыі за справаздачны перыяд не стала менш. Наадварот, у 1996 годзе была створана Маладзёжная суполка ТБМ, якая пастаянна пашырае свае шэрагі.

Сакратар рады Лілія Дзіцэвіч паведаміла, што ўжо два гады таварыства фактычна з'яўляецца банкрутам і даўгі няўмольна растуць. З гэтага года чарговы раз павялічылася плата за памяшканне цэнтральнай сядзібы ТБМ і зараз вырашаецца яе лёс. Арэндная плата за зямлю не дазваляе аднавіць работу гандлёвых шапікаў, яны стаяць зачыненыя. Штат цэнтральнай сядзібы зараз складаецца з трох чалавек, якія працуюць выключна на грамадскіх пачатках. Індывідуальныя ахвяраванні не могуць істотна паўплываць на сітуацыю.

Дэлегаты з'езда, нягледзячы на гаротнае становішча арганізацыі, адмовіліся ад трагічнага жалапеву. Пераважалі пачуцці бадзёрасці і аптымізму. Скразная думка многіх выступленняў была наступнай: адступаць далей няма куды, прыйшоў час адштурхоўвацца ад дна, на якое мы мусілі апускацца апошнія гады. Шмат месца і ўвагі было ўдзелена канструктыўным прапановам па ўдасканаленні дзейнасці арганізацыі. Гаворка атрымалася цікавая і дзелавая.

Толькі два пытанні выклікалі спрэчкі прысутных. Першае — ці варта супрацоўнічаць з дзяржаўнымі структурамі ў ажыццяўленні сваёй дзейнасці? Другое — ці даюць нейкі пазітыўны вынік звароты да чыноўнікаў, да ўлады, а таксама ў міжнародныя арганізацыі — ААН, ЮНЕСКА і г. д.? Дэлегаты ўмоўна падзяліліся на "адзавістаў" і "прагматыкаў". Колькасць апошніх відавочна пераважала.

Выступоўцы заклікалі адзін аднаго да ўзмацнення дысцыпліны ў сваіх суполках і самадысцыпліны ванасці. Калі пагаршаецца агульнае становішча ў краіне і ў арганізацыі ёсць пагроза самаразвалу, галоўная задача зараз — гэта захаваць людзей і рэшткі матэрыяльнай базы і ўласнай маёмасці. Патрабуецца змена форм дзейнасці і працы, традыцыйных ужо недастаткова. Неабходна гуртавацца ў адзіны блок з усімі існуючымі грамадскімі арганізацыямі і рухамі дэмакратычнага накірунку. Трэба, наколькі гэта магчыма пры цяперашніх умовах, аднаўляць дзейнасць першасных суполак па месцы працы і жыхарства людзей, ствараць клубы беларускай мовы ў Мінску і іншых гарадах і пасёлках. ТБМ і ўсе дэмакратычныя сілы выказваюцца за стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта. Таварыства павінна паўнавартасна дзейнічаць у якасці праваабарончай арганізацыі. Газету "Наша слова" неабходна захаваць у любым выпадку, няхай сабе па першым часе ў меншым аб'ёме і перыядычнасці. Неабходна карпатліва збіраць фактычныя матэрыялы для падрыхтоўкі выдання т. зв. "Чорнай кнігі" злачынстваў і злачынцаў над беларускай мовай.

V з'езд ТБМ прыняў звароты да моладзі і да жанчын, а таксама пастанову.

V з'езд ТБМ задаволіў просьбу Н. Гілевіча аб адстаўцы і абраў на пасаду старшыні Таварыства Генадзя Бураўкіна, які ў сваім выступленні заклікаў калег перш-наперш пазбягаць радыкальных і канфліктных форм дзейнасці і палітычнай канфрантацыі з кім бы там ні было.

**І. ПАНАМАРЭНКА**

# Western's Record Praised

At the invitation of Dr. Barys Ragula and Professor Charles Ruud, I visited The University of Western Ontario on Jan.27, 1997. In addition to Professor Ruud, I had meetings with President Paul Davenport and Dr. Frederick J. Keenan, Director, Office of International Research. Dr. Keenan graciously hosted a luncheon for me to become acquainted with several university and community leaders involved in outreach work in the former Soviet Union. In the afternoon I delivered a lecture entitled "The Former Soviet Union and European Security" to a group of students and faculty. In the evening I attended a dinner hosted by Dr. Ragula.

During the course of my visit, I became acquainted with UWO assistance and cooperation activities in countries of the former Soviet Union. These are both substantively and geographically broad, encompassing medicine, science, environment, engineering, business,management, society, and culture. Impressively, this range of programs is being carried out just in Russia and one or two other countries of the former USSR and Eastern Europe, but in many. In the Republic of Belarus alone, Western has initiated activities involving pediatric dentistry, occupational therapy,language learning, business training, and other fields of endeavor. In my opinion The University of Western Ontario is engaged in more assistance work in Belarus than any other university in North America with which I am familiar. Western has a record, in this regard, which would be the envy of many governments, not to mention institutions of higher education.

Western has expressed strong interest in establishing a cooperative program with the European Humanities University in Miensk, which I represent in North America. This private, non-state institution, founded in 1992, already has six faculties, some 500 full-time students and over 100 faculty members. It graduated its first class — in the Faculty of Law — in 1996. The European Humanities University was created to train new generations of post-Soviet students in the best educational traditions of western Europe and North America so as to produce future leaders of government and industry in the region who are both professionally trained and imbued with western values. I hope future ties between The University of Western Ontario and the European Humanities University will materially foster this process.

David H. Swartz
Ambassador (Retired)
President, European Humanities University Foundation, Inc.

У Беларусі Чарнамырдзіну давядзецца ахоўваць газапровод...

# МЫ — ПАРТЫЗАНЫ. З ВАЙНОЙ МЫ НА «ТЫ»...

На беларускіх дарогах невядомыя маладыя людзі пачалі нападаць на аўтамабілі з расейскімі нумэрамі. Прычым часта не дзеля выгоды, а проста так — аблаяць ды напалохаць пасажыраў. Масквічы абураюцца — як гэта так, раней баяліся езьдзіць праз Летуву і Польшчу, а цяпер да гэтага пераліку трэба дадаць яшчэ і Беларусь? Улічваючы, што асноўная прыкмета «лясных братоў» — маладосьць, за тлумачэньнямі карэспандэнт газэты "Маскоўскі Камсамолец" зьвярнулася да самага вядомага сярод ультраправай моладзі чалавека — лідэра напаўпадпольнай арганізацыі «Белы легіён» Сяргея Чыслова.

Знайсьці яго аказалася няпроста. У апошні час да Сяргея павышаная цікавасьць з боку МВД і КГБ рэспублікі, а каля дому заўсёды дзяжурацъ белыя "жыгулі", таму ён практычна не жыве з сям'ёй. Адзіная магчымасьць сувязі з ім — гэта тая, што завецца цыганскай поштай. Так удалося зьвязацца.

Пры сустрэчы Сяргей тут-жа адхрысьціўся ад «лясных братоў» і паведаміў, што "Белы легіён" ня мае адносін да нападаў на грамадзян Расеі. Аднак такім фактам не зьдзівіўся, бо ўчынкі нацыянальна-накіраванай моладзі сёньня ніхто поўнасьцю не кантралюе.

— Хутчэй за ўсё, на дарогах сваволяць юныя дуброўскія, 16-18 гадоў. Чаму зьдзіўляцца, калі нават на рэспубліканскім фэстывалі "Рок-каранацыя-97" у намінацыі "Песьня году" моладзь абрала песьню «Партызаны» без асаблівай музыкі і тэксту, затое са словамі "...мы— партызаны, з вайной мы на "ты". Ачысьцім свой край ад чужых зграй...". Песьня толькі адлюстроўвае настрой моладзі.

*— Ці можна назваць прыкладную колькасьць "легіёна", хоць я, вядома, разумею, што ў вас адзін баец ідзе за сто?*

— "Легіён" існуе ўжо болей за год і мае трохступеньчатую структуру. Яе аснова — даволі шырокае кола людзей, спачуваючых арганізацыі. Другі ўзровень — тыя, хто актыўна ўдзельнічае ў нашых мерапрыемствах. З іх пры наяўнасьці дзьвюх рэкамэндацыяў фарміруецца трэйці ўзровень. Непасрэдна "легіянерамі" становяцца хлопцы з трэйцяга і часам другога ўзроўню. Яны прымаюць прысягу і атрымліваюць спэцыяльны знак, на якім выгравіравана: «Гонар і годнасьць». Такіх легіянераў у нас больш за 150 чалавек.

*— Што за група людзей, які іх сацыяльны статут, хто яны па прафэсіі?*

— Гэта добра фізычна падрыхтаваныя вайскоўцы рабочая моладзь, студэнты. Нашы людзі ёсьць ва ўсіх сілавых падразьдзяленьнях краіны — у спэцназе, АМОНе, нашы хлопцы ёсьць і ў адміністрацыі прэзыдэнта. У звычайным жыцьці арганізацыя бярэ поўную адказнасьць за сваіх людзей. У нас заведзены так званы "абшчак" — фонд узаемадапамогі. Калі нехта атрымлівае траўмы і ня можа працаваць, мы дапамагаем яму.

..."Белы легіён" узьнік у канцы 1995 года. Лідэрам стаў Сяргей Чыслоў, выпускнік Менскага вышэйшага інжынернага ракетнага-зенітнага вучылішча. Сёньня яму пад трыццаць. Касьцяк склалі так званыя "Чорныя рыцары", якія дагэтуль дзейнічалі пад дахам патрыятычнае арганізацыі "Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў". Цікавая дэталь — яшчэ на зары арганізацыі ў яе дзейнасьці прымалі ўдзел такія прыкметныя фігуры, як Віктар Шэйман, цяпер дзяржсакратар Савета Бясьпекі. І нават сам прэзыдэнт Лукашэнка. Тады ён быў проста дэпутатам і ў якасьці госьця наведваў сход. Але структура распалася, а самая маладая і энэргічная яе частка склала сваю напоўпадпольную арганізацыю "Белы легіён". Па словах Чыслова, гэта адбылося таму, што максімум, які магла прапанаваць тады апазыцыя афіцэрам, што прыйшлі з арміі, — гэта бегаць раскідаць улёткі. Яны-ж рыхтавалі сябе для іншага. "Легіянеры" сёньня не ўспрымаюць сур'ёзна аніводнага палітычнага лідэра апазыцыі.

— Што паробіш, мы мелі магчымасьць пераканацца, што праца старэйшага пакаленьня вынікаў не прынесла, — кажа Чыслоў. — Цяпер за справу хочам узяцца мы — будзем спрабаваць зарэгістраваць сваю палітычную структуру, бо падпольная ў нас ужо ёсьць.

*— Якім чынам у вас ажыцьцяўляецца канспірацыя? Сьпісы сяброў арганізацыі знаходзяцца толькі ў тваёй галаве?*

— Гэта так, але ўсё роўна я думаю, што калі нашы людзі ішлі працаваць у АМОН, там ведалі пра іх "радаслоўную".

*— Ты падазраеш, што ў тваёй структуры ёсьць "засланыя казачкі"?*

— Няма сумневу. Але наша ратаваньне ў тым, што на сёньняшні дзень— многа спэцслужбаў, і колы інтарэсаў у іх — дыямэтральна супрацьлеглыя. Праўду кажучы, калі мяне забралі ў адну з такіх структураў, я быў упэўнены, што супраць мяне маса матэрыялу. А высьветлілася, кампрамата кот наплакаў. Мяне адпусьцілі.

... Можна лічыць, што тады Сяргею пашанцавала. У апошні раз з ім абышліся больш крута. Накіроўваючыся ў адзін з райцэнтраў рэспублікі, Чыслоў заўважыў, што яго ў адкрытую "вядуць". Так бывала і раней, таму ён прыняў толькі звычайныя меры перасьцярогі. Пабыўшы да вечара ў гэтым насельным пункце, ён сабраўся было ўжо назад і зайшоў павячэраць у бар. Тут да яго падышлі бравыя хлопцы, і яго разам з сябрамі прымусілі сесьці ў машыну. У цэмры кампанія на дзьвюх машынах прывезла "палонных" у лес і моцна пабіла. Пасьля гэтага Чыслоў больш за два тыдні праляжаў з траўмамі галавы ў бальніцы. Сам Сяргей перакананы, што яго пабілі нанятыя ўладай людзі.

Наогул улады, з аднаго боку, крыху баяцца "легіянераў", з другога — спрабуюць выкарыстаць іх у сваіх мэтах. Напрыклад, распаліць абстаноўку, стварыць бачнасьць пагрозы кіруючаму рэжыму і гэтак далей. Зусім нядаўна, выступаючы на паседжаньні калегіі рэспубліканскай пракуратуры, ужо знаёмы нам дзяржсакратар Савету Бясьпекі Віктар Шэйман заявіў, што кіраўніцтва Беларусі распалагае фактамі, што сьведчаць аб актыўнай падрыхтоўцы апазыцыі "да так званай "Гарачай вясны-97". Савету Бясьпекі стала вядома пра тое, што ва ўсіх раёнах беларускай сталіцы ставіцца задача падшукаць спартыўныя залі для падрыхтоўкі своеасаблівых дружыньнікаў ды ахраньнікаў, якія будуць працаваць на мітынгах. Касьцяком удзельнікаў вулічных акцыяў стануць, па словах Шэймана, бявікі-беларусы, якія прайшлі падрыхтоўку ў Чачні. Нагадаю, што падчас вясеньніх падзей 1996 году "Белы легіён" актыўна ўдзельнічаў у дэманстрацыях, а ўвосень ахоўваў арганізатараў розных акцыяў, забясьпечваў бясьпеку журналістам. Таму ўсе намёкі Шэймана лёгка пазнавальныя — пад бравымі хлопцамі дзяржсакратар мае на ўвазе сяброў "Белага легіёну".

*— Сяргей, вы накіроўвалі сваіх людзей у Чачню?*

— Мы накіроўваем сваіх людзей у Французскі легіён — бо хлопцы не павінны згубіць баявыя навыкі. У Чачню — ніколі! Неяк нам прыйшла прапанова ад украінскіх парнэраў стварыць беларуска-украінскі батальён для адпраўкі ў Чачню. Але мы адмовіліся, мы не маглі ваяваць супроць братоў-славянаў.

*— Апазыцыя заяўляе сёньня пра тое, што ў выпадку, калі інтэграцыя будзе праведзена, яна гатовая да барацьбы партызанскімі мэтадамі: займацца шкодніцтвам, узрываць трубаправоды. Гэта рэальна альбо пустыя словы?*

— Думаю, рэальна. Бо Чарнамырдзін не паставіць на кожны мэтр газаправоду па ахоўніку. Таму я-б не сьпяшаўся з аб'яднаньнем, Наогул мы лічым, што сёньня Крэмль ня можа быць абаронцам інтарэсаў славянаў, бо Расея даўно ўжо не славянская дзяржава — многія ключавыя пасты, на жаль, належаць не славянам.

Кацярына Віян.
(паводле МК, 1997)

---

Голас народу

# Лукашэнка прыйшоўся да душы калектыву псіханеўрадыспансэра

**На пытаньне: "Рыхтуецца аб'яднаньне дзьвюх дзяржаў — Расеі і Беларусі. Згодна варыянту, які падыходзіць прэзыдэнту Лукашэнку, на чале новага ўтварэньня павінен стаяць менавіта ён. Ці хацелі вы бачыць Лукашэнку сваім прэзыдэнтам?" — адказалі 275 чалавек... За Лукашэнку "прагаласавалі" 48 чытачоў, супраць — 208, асаблівую думку выказалі 19 чалавек.**

СУПРАЦЬ:

— У нас свой прэзыдэнт які-ніякі. Мы яго выбралі. (Яроменка Ганна, 21 год, студэнтка).

— Я спачуваю беларускаму народу за тое, што ў яго такі прэзыдэнт. Ён не інтэлігентны, малаадукаваны, кепска выхаваны і занадта любіць сябе. (Акапян Арцем, 45, бізнэсмэн).

— Каварны, непрадказальны. (Калесьнікава Тамара, 61 год).

— Грубы, завельмі ілжывы чалавек. (Маркава Вольга, 55, кандыдат тэх. навук).

— Бот ён. (Калюжны Мікалай, 43, кам. дырэктар).

— Нават інтэрв'ю яго непрыемна слухаць. Ён проста самадур. (Кузьмічова Валянціна, 64, пэнсіянерка).

— Шкада беларусаў, яны дастойныя генэрала ад палітыкі, а не палітрука-самавука. (Мальцаў Усевалад, 41 год, гісторык).

—Мне з Менску прыслалі ліст. Яны пішуць, што Лукашэнка ў іх кар'ерыст, неадукаваны, выскачка. (Сямёнава Алена, 42, выкладчык).

— Мне здаецца, у яго — манія велічы. (Міхайлава Ганна, 33, дамашняя гаспадыня).

— Я яго бачу толькі старшынёй калгаса, а намесьнікамі — Бабурына і Зюганава. (Салаўёў Канстанцін, 44, перакладчык).

— Старшыня калгаса са звычкамі фюрэра і паталагічнай любоўю да Гітлера. (Пятроў Аляксандар, 47 гадоў, інжынер).

— Чалавек, які ўсхвалявана гаворыць пра Гітлера, ня можа быць прэзыдэнтам Расеі. (Штапаў Павел, 23, студэнт).

— Лукашэнка даволі небясьпечны. Ён многа і пераканаўча гаворыць, а робіць мала і строга ў кірунку асабістага ўзбагачэньня, умацаваньня асабістай улады. (Рабчонак Алег, беларус, 31, інжынер).

— Я супраць лукашызму. Гэта прывядзе да ўсталяваньня аўтарытарнага рэжыму. І эканоміцы будзе горш. (Елагін Сяргей, 28, былы афіцэр).

— Іх эканоміка ўгроблена Лукашэнкам. Ён захапляецца Гітлерам. Многія беларусы працуюць у нас. Лукашэнка выступаў у "Зеркале", гаварыў, як у іх добра, а ў той-жа час там быў "марш пустых каструляў". (Захараў, 40, рабочы, бацька 4 дзяцей).

— У мінулым годзе я настройваў радыёпрыёмнік і міжволі пачуў Лукашэнку. Ён сказаў літаральна наступнае: "Нам толькі варта прысмактацца да цыцкі Расеі, а там будзем бачыць". (Паршыкаў Уладзімір, 54, грузчык).

— Дзякуй, ня трэба. У нас сваіх блазнаў гарохавых наперабор. А тут нейкі імпартны бацька. Гэта ўсё пацыенты псіхіятрычнай клінікі. (Анчонаў Уладзімір, 42, інжынер).

— З Лукашэнкам нам дэмакратыя і сьніцца ня будзе. (Лапцева Галіна, 57).

— Што, Ельцын юшкі аб'еўся? Калі яму надакучыла быць прэзыдэнтам, хай прызначае Чубайса, той ужо ніколі не падпіша аніякіх пагадненьняў з Лукашэнкам. Хай у мяне лепей аднімуць пэнсію, толькі не Лукашэнка. (Цюрына Ганна, 55, прыбіральшчыца).

— Мы з жонкай параіліся і вырашылі, што мы пакуль што не страцілі розум. У нас сваіх дурняў хапае. (Аўчыньнікаў Барыс, 52 гады, радыёінжынер).

—Не дзеля гэтага ідзе 10 гадоў перабудова, каб аб'яднацца з камуністамі. Лукашэнка — дыктатар. І па сабе, і па сябрах ведаю, што мы пойдзем у падполле і будзем з ім змагацца. (Барысава, 32, эканаміст).

— Дзе будзе гандляваць Беларусь, калі ён стане прэзыдэнтам Расеі і Беларусі? Трэба спытаць думку беларусаў, якія стаяць на рынку, што яны пра яго скажуць. (Кустоў Валеры, 50, інвалід).

— Ані ў якім выпадку. Ніколі ў жыцьці. Мы бачым гэтыя неандартальскія твары. Надакучыла гэтае "гаўканьне", "шоканьне". Патрэбны адукаваны чалавек. Абяднаньне таксама ня мае сэнсу. Трэба свой дом пабудаваць добра. Я ведаю, што гэта народ жабракоў. Паўсюль Ленін: у школах, усюды. Мая сястра калісьці жыла даволі прыстойна, гадоў 5 назад пераехала ў Беларусь, былі нейкія прыпасы. А цяпер мы прывозім туды ўсё — ажно да мыла. Там нічога ня робіцца. А яны глупствы кажуць, што робяць нейкія рэформы. Яны стаяць на адным месцы. (Нурыкава Лілія, 56, былая актрыса).

ЗА:

— Лукашэнка — чалавек ад сахі, з народу. У Беларусі яго паважаюць. Я там бываю ўлутку. Ён ня з тых палітыкаў, пра якіх кажуць: "брудная справа". Ён супраць фашызму. Фашысты — гэта тыя, хто ўваходзіць у народны фронт. (Чэрваняшчая Зінаіда, пэнсіянерка).

— Ён змог стварыць моцную дзяржаву. Трэба зноў зрабіць жалезную заслону. (Лазуткін Іван, 19, студэнт).

— Ён сапраўдны русак. (Ягораў Віктар, 73, архітэктар).

— Усімі фібрамі душы — "за". 1. Малады, разумны, дзейны, рашучы, патрабавальны. 2. Наш стары ды хворы. У нас усе карумпіраваныя. Увесь наш псыханеўралагічны

(Далей, на наступнай бачыне)

дыспансэр за Лукашэнку. Ён славянін, любіць народ. (Луніна Тацьцяна, 60, лекар-псыхіятр).

— Лукашэнка — гэта ідэальны варыянт, бо краіна зараз жыве ў чаканьні моцнай рукі, і гэта значна лепей, чымсьці Лебедзь. (Сяргееў Барыс, 24, студэнт).

— Я была-б узрадаваная бачыць яго сваім прэзыдэнтам. У Беларусі ёсьць парадак, людзі атрымліваюць зарплату, пэнсіі. У мяне родныя ёсьць у Беларусі, я сама напалову беларуска. Там ідзе барацьба са спекуляцыяй. А Масквуператварылі ў памыйную яму. (Норына Ларыса, 51, тэлеграфіст).

— Лукашэнка больш сумленны. Я-б яго хацеў у прэзыдэнты. (Капцынель Вадзім, 65 гадоў).

— Сумленны. Не ангажыраваны. Арыентаваны на інтарэсы тых, хто нічога ня мае. Дзяцей і ўнукаў у Лёндане не навучае, калі паўкраіны галадае. Сорам і сумленьне пры ім. Класна прыцісну "новых беларусаў" у сэньсе падаткаў. Ваяўнічы рэаліст. Крыху донкіхот. (Філеўская Тацьцяна, 49, інвалід савецкай улады).

**АСАБЛІВАЯ ДУМКА:**

— Няма сэнсу ставіць Лукашэнку, Ельцын разваліў Расею, Лукашэнка — Беларусь. Прапаную ўзяць Буша з Амэрыкі альбо Гусейна з Іраку, каб навялі парадак. (Грышын Васіль, 72, удзельнік Айчыннай вайны).

— Навошта мяняць шыла на мыла? А ці нельга памяняць гэтых абодвух на аднаго — Яўлінскага? (Нізаўцаў Уладзімір, 65, былы юрыст).

Камэнтарый маскоўскай газэты "МК".

Падобна, асабіста А. Лукашэнку ў Расеі пакуль нічога ня сьвеціць.

Падрыхтавала Людміла Волкава.

(Паводле маскоўскае газэты "МК", 1997)

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Сп. Прускі!

«Беларускі Дайджэст» атрымаў, шчыра дзякую. Выданьні высылаю на Бацькаўшчыну, каб там чытаючы ведалі, што мы тут у Замежжы пра лёс нашай многапакутнай Бацькаўшчыны не забываем, а ў меру магчымасьцяў інфармуем вольны сьвет пра зьдзек над нашым народам, які творыць цяперашні прэзыдэнт і яго інтэрнацыянальныя паплечнікі.

У "Голасе Радзімы" № 13 зьмешчана выступленьне А. Лукашэнкі на III кангрэсе народаў СССР, 16 сакавіка 1997 г. У сваім выступленьні прэзыдэнт хваліць былы чароўны Савецкі Саюз, які быў агульным домам усіх народаў. Ён марыць, што з часам ён зноў адновіць СССР. Прыкра чытаць, што прэзыдэнт Беларусі стараецца прадаць сваю краіну матушцы Расеі. Апазыцыю супроць інтэграцыі з Расеяй абзывае фашыстуючымі нацыяналістамі.Былую бальшавіцкую сымболіку, якую ён падманам увёў называе "сапраўдняю сьвятыняю нашага народу, а нашую гістарычную сымболіку абражае, быццам яна была прынятая Шушкевічам і выдуманая падчас акупацыі Беларусі Кайзэрам і Гітлерам. Ці-ж ня час, каб нашыя гісторыкі супраць такой хлусьні праўдай адказалі? Спадзяюся, што пры Божай помачы народ наш прачнецца і інтарэсы незалежнасьці Беларусі абароніць. Залучаю ахвяру на газэту.

З пашанай, С. Б.

*Дзякуем за ліст і ахвяру. Цяжка мірыцца з тым, што ў Беларусі ўладу захапілі ў свае рукі розныя прайдзісьветы і калгасныя конюхі. Але, на сьвеце нічога вечнага не бывае...*

Паважаны Спадар Прускі!

Шчыра дзякую за газэту "Беларускі Дайджэст", якая мне вельмі падабаецца. Асабліва падабаюцца артыкулы, якія аналізуюць сытуацыю ў Беларусі. У сувязі з гэтым жадаю Табе добрага здароўя і плённай працы ў рэдагаваньні газэты. Адначасна перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд.

З пашанай, А. С.

*За ліст і ахвяру дзякуем і жадаем Вам добрага здароўя і доўгіх гадоў жыцьця.*

Шаноўны выдавец і Рэдактар Мікола Прускі!

Як прыемна нам беларусам у дыяспары атрымоўваць і чытаць такую прыгожую і багатую зьместам, дарагую ды родную беларускую газэту — "Беларускі Дайджэст". Пры гэтым перасылаю нашу ахвяру на Выдавецкі Фонд газэты...

Карыстаючы з нагоды, хачу падзякаваць нашым суродзічам, а асабліва матушцы Вользе, дачцэ Галіне Гупэр і шчырым парафіянам Петрапаўлаўскае Парафіі ў Адэляйдзе, якія ахвяравалі добрыя рэчы з вопраткі і абутку, што мы пераслалі ў Вільню для беларускае школы ды прастарэлых беларусаў на рукі настаўніка гэтае школы Паўла С.

Гасподзь Бог наш няхай Вам дарагія Мікола і Вера пасылае здароўе і сілу для так карыснай працы ды моцнай веры і любові.

З Хрыстовай любоўю і пашанай да усіх Вас, а. М. і матушка В. Б.

*Дарагі а. М. Шчыра дзякуем Вам за плённае супрацоўніцтва з нашай газэтай ды вялікую ахвярнасьць на Выдавецкі Фонд нашага выданьня. Жадаем Вам і матушцы ўсяго найлепшага ў жыцьці.*

Вельмі паважаны Спадар Рэдактар!

У залучэньні перасылаю ахвяру на Фонд "Беларускага Дайджэсту".

Дзякую Вам за перасылку для мяне газэты ды жадаю як найлепшых посьпехаў у працы на грамадзкай, беларускай ніве.

Застаюся з глыбокаю пашанаю да Вас, П. Ш.

*Дзякуем за памяць. З абменам у банку няма праблемы. Жадаем усяго найлепшага.*

Вельмі Паважаны Сп. М. Прускі!

Дзякую за газэты, якія інфармуюць нас аб змаганьні нашых так ахвярных патрыётаў за незалежную нашу родную Беларусь. Пасылаю так патрэбную ахвяру на газэту.

Жадаю Вам посьпехаў у працы і ўсяго найлепшага ў прыватным жыцьці.

Жыве Беларусь!

Ваш, У. К.

*За ўсё шчыра дзякуем і таксама жадаем усяго найлепшага.*

Вельмі Паважаны Спадар Прускі!

Даруйце, што спазьніліся з ахвярай на "Беларускі Дайджэст" на 1997 год. Час ляціць вельмі хутка і беспаваротна ўцякае жыцьцё. Вам жадаем "многая лета" ў выдавецтве газэты, так патрэбнай для нас усіх.

Хрыстос Уваскрос! Л. Б.

*Усяго Вам найлепшага і дзякуем за ахвяру.*

В. Паважаны Сп. Прускі!

Дасылаю ахвяру на "Б.Д," I як Вы толькі ўкладаецеся з Вашым часам, бо газэта выходзіць своечасова, так і на гэты раз — перад Сьвятам. Віншую Вас і Вашых са Сьветлым Сьвятам Вялікадня.

З пашанай. І. С.

*За ўсё дзякуем. А з часам бывае розна... Ды каб толькі газэта, а то колькі іншае адказнае дзейнасьці... Хоць часамі і цяжка, але неяк пры помачы Божай даем рады.*

*«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»*
чакае Вашае ахвяры
на
**ВЫДАВЕЦКІ ФОНД!!!**

## Нам паведамляюць...

што 4 і 5-га ліпеня 1997 г. адбудзецца сэсія Эўрапейскага сэктару Рады БНР у Вільні, Летува. У 10 пунктаў парадку дня ўключаюцца рэфэраты, арганізацыйныя справы ды іншыя пытаньні.

Гэтая палітычная падзея, трэба спадзявацца, дапаможа больш цесна згуртавацца беларускім незалежнікам як блізкага, так і далёкага замежжа. Аб працы сэсіі будзем інфармаваць у свой час.

## Варта ведаць...

**Аб сваёй бязумоўнай падтрымцы ідэі аб'яднаньня двух славянскіх народаў ад імя Праваслаўнай царквы аб'явіў у прысутнасьці А. Лукашэнкі на Богаслужэньні ў Сьвята-Духавым кафедральным саборы мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі. Зьвяртаючыся да вернікаў, прэзыдэнт адзначыў плённасьць паездкі дэлегацыі па краінах паўднёва-ўсходняй Азіі. Ён падзякаваў за тую падтрымку, якую беларускі народ аказвае кіраўніку дзяржавы і ягонай палітыцы накіраванай на збліжэньне з Расеяй. Выглядае, што мітрапаліт Філарэт заміж займацца рэлігійнымі справамі, стаў палітыканам і рупарам рускіх чорнасоценцаў і імпэрыялістаў...**





Дружна галасуюць за "северо-западный край".

## Вёска вымірае?..

**Як сведчаць лічбы, пагаршаецца дэмаграфічная сітуацыя ў многіх рэгіёнах Беларусі. Вось аб чым паведаміла Мінскае абласное ўпраўленне статыстыкі.**

З пачатку года на Міншчыне нарадзілася прыкладна 4 тысячы немаўлят, што на два працэнты больш, чым за гэты ж перыяд летась. Тым не менш зніжэнне нараджальнасці зафіксавана ў Барысаве, Маладзечна, Салігорску і 12 раёнах вобласці.

Больш чым на 4,5 працэнта зменшылася смяротнасць. Аднак па-ранейшаму высокая яна ў сельскай мясцовасці Мінскай вобласці, дзе колькасць памёршых у тры разы перавышае колькасць нованароджаных.

***Алесь МЯСНІКОЎ***

*Ня плачце вы, сёстры, ня плачце вы, маткі,*
*Ня плачце вы, любыя сэрцу, па нас!*
*Такія ўжо, знаць, на сьвеце, парадкі,*
*Такі ўжо бязглузды, пакручаны час.*

*Няхай лепш сумуюць прадажныя душы,*
*Адплаты чакаюць за здраду сваю,*
*Няхай іх сумленьне, тых юдаў, падушыць,*
*Загоніць жывымі ў сырую зямлю.*

*Зьвярыная злосьць не заслоніць нам неба*
*І нашу зямельку ўсю не глыне!*
*Мы знаем — змагацца за волю нам трэба,*
*Мы знаем — змаганьне наш край не міне.*

*Ніколі й нідзе Беларусь не загіне,*
*Ніколі й нідзе Беларусь не памрэ,*
*Ні ў турмах, ні ў "концах"***, ні ў клятвах краінах,*
*Ні ў дзікім прыгоне — ў маскальскім ярме...*

***Яшчэ год таму пра існаванне дзяржавы Беларусь ведалі хіба што эрудыты. Сёння ў Еўропе, пэўна, цяжка знайсці таго, хто не чуў пра нашую краіну. Беларусаў з белагвардзейцамі ўжо не блытаюць. Іншая справа, якую славу набыла Беларусь у свеце... Растлумачыць лагічна ці зразумець, чаму народ на чале са сваімі лідэрамі імкнецца пазбавіцца незалежнасці — немагчыма. Гэта — загадка "таямнічай славянскай душы". І хоць сёння кіраўніцтва Беларусі ва ўвесь голас сцвярджае, што ні пра якое адмаўленне ад незалежнасці размова не ідзе, што аб'ядноўваюцца дзве суверэнныя дзяржавы, кожная з якіх будзе мець адзін голас, мы ведаем, што канчатковай мэтай Саюза — і гэта ўсяляк падкрэсліваецца — з'яўляецца ўтварэнне адзінай дзяржавы. На гэтай, і толькі на гэтай абавязковай умове пойдзе на Саюз Расія... Так, сёння ў свеце ведаюць, што ёсць у Еўропе такая дзяржава Беларусь. Ёсць, а не была. І гэта пакідае беларусам шанц зрабіць так, каб была яна вечна, пакуль будзе існаваць гэты свет. Пэўна ўжо, лёс у нас такі: пакутліва доўга паўставаць з попелу, імкліва згараць, каб потым паўстаць зноў і зноў...***



— Я-ж табе кажу, што я іду дамоў...